# Веснік НДА
# Вестник NGO
№6(21)

чэрвень 2000




БЮЛЕТЭНЬ ВІЦЕБСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГА «ФОНД ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ»

10 травеня 2000 г. у Кастрычніцкім судзе Віцебска адбылося 3-е слуханьне грамадзянскай справы па зыску сп. Ластоўскай Л.П. з Паставаў да Управы унутраных справаў Віцебскага аблвыканкама і Першамайскага РАУС за незаконнае адміністрацыйнае затрыманьне. Лідзія Паўлаўна беспадстаўна была дастаўлена ў Першамайскі РАУС 8 травеня 1999 г. у час кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі разам з В.Шалухіным, старшынём абласной камісіі і Х. Жэляпавым, кіраўніком віцебскага аддзелу «Фонду імя Л.Сапегі». Па гэтай прычыне яна падала заяву на кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 700 і 500 тысяч рублёў ад Управы і РАУС адпаведна. Затрымліваў Ластоўскую і апекаваўся ёю ў пастарунку яе зямляк падпалкоўнік Кісялёў С.М.

Пасьля дастаўкі ў РАУС Лідзія Паўлаўна правяла там каля 5 гадзінаў і страціла магчымасьць здзейсьніць запланаваныя на гэты дзень асабістыя справы.

Пры разглядзе справы суддзёй Бялясавай Л.Я. высьветлілася, што на сп. Ластоўскую ў дзень дастаўкі ў РАУС не было складзена пратаколу аб адміністрацыйным затрыманьні і рапарту аб здзяйсьненьні правапарушэньня. З пастаўчанкі былі толькі ўзяты тлумачэньні. Гэтая акалічнасьць Управай унутраных справаў была прызнаная парушэньнем службовай інструкцыі з выцечным адсюль службовым спагнаньнем на падпалкоўніка Кісялёва, але затое дала магчымасьць сьцьвярджаць адказчыку, што Ластоўская была дастаўлена ў пастарунак дабраахвотна. Суддзя Бялясава Л.Я. перанесла разгляд справы на 13 травеня з запрашэньнем дадатковых сьведкаў з абодвух бакоў, прычым час для жыхаркі Паставаў зноў прызначаны вельмі нязручны – 8.00 раніцы. У якасьці законнага прадстаўніка ў судовым паседжаньні прымаў удзел сябра віцебскага аддзяленьня "ВЯСНЫ".

## Наваполацкія навіны

12 траўня афіцыйная Наваполацкая газета "Новая газета" апублікавала практычна канчатковы варыянт гербу горада. Прынамсі так сьцьвярджаецца ў публікацыі. Як вынікае з газетнай нататкі, будучы герб горада ўяўляе сабой французкі шчыт, падзелены колеравай гамай напалову. Верхняя частка сіняя, ніжняя – блакітная. У сярэдзіне знаходзіцца (у газеце напісана красуецца) белая лілея зь пялёсткамі, абведзенымі золатам. А над ёй паўколам рассыпаюцца сем залатых зорачак. У такім жа стылёвым накірунку выкананы й сьцяг гораду.

Аўтарам вышэйзгаданых сымболяў зьяўляецца вядомы Наваполацкі мастак Віктар Лук'яненка. Свой выбар колераў, як сказана ў нататцы Н.Конышавай, аўтар тлумачыць наступным чынам: сіняя палова працягвае геральдычныя традыцыі Эўропы, блакітная адданасьць візуальнай традыцыі геральдыкі Падзьвіньня. Наяўнасьць залатых адценьняў як бы сьведчыць аб дастатку Нафтаграду. Сем зорачак – сем вёсак, што ператварыліся ў горад. Яны нібы аўра гонару, славы й шчырасьці над імі. Белая лілея сімвалізуе мір і дабрабыт Наваполацка.

Далей аўтарка бярэ на сябе адказнасьць сцьвярджаць, што ўжо зараз зразумела, што наступ[illegible] Навапалачанаў наканавана будаваць горад пад знакам белай лілеі. Але з гэтым відаць можна паспрачацца.

Мастак Віктар Лук'яненка безумоўна таленавіты й цікавы творца. Яго творчасьць захапляе многіх людзей. У яго характэрны, адметны й досыць своеасаблівы стыль. Але навука геральдыка, як і ўсе навукі, мае свае адмысловыя законы, не выкананьне каторых вядзе да дысгармоніі, а часам і да марнаваньня сродкаў і часу. Герб і сьцяг гэта не проста добры малюнак, што зьявіўся пасьля пэўнага часу практыкаваньняў, і які можна прыгожа апісаць славесна. Гэта сымболі, што непарыўна зьвязваюць час. Мінулае, сучаснае й будучае. Гэтыя ж сымболі паказваюць арганічную прывязанасьць да пэўнае тэрыторыі і дзяржавы.

І тут варта былоб дакладна ўлічваць, што Наваполацк ўжо практычна зросься са сваім славутым і старадаўнім суседам Полацкам. Так ці інакш, літаральна праз некалькі год яны стануць адзіным цэлым. Так прадвызначана лёсам. А вялікі аб'яднаны горад будзе насіць усё тую ж гістарычную назву – Полацк. Іншага проста не можа быць. Таму і гарадзкія Наваполацкія сымболі трэба было выводзіць, як мага больш, з Полацкай геральдыкі, а не ад нейкага мітавага "дастатку Нафтаграду" і гэдак далей.

Герб старадаўняга Полацка ёсьць найвялікшым узорам варыянту непаўторнай беларускай гральдыкі. Ён засьведчыў сваю жыцьцёвую моц праз стагодзі. Чаму ж мы ў чарговы раз ня вучымся ў сваіх продкаў, а спрабуем перайначыць ходу гісторыі. Над намі ўжо і так "вісяць" бязглуздыя маляваныя мёртванароджаныя знакі. Гістарычныя ж адзнакі народу й дзяржавы бязмозглыя чыноўнікі марна спрабуюць выцесьніць за межы часу й прасторы.

Вышэйзгаданы варыянт гербу Наваполацка безумоўна можна зацьвердзіць самымі высокімі камісіямі, але лёс сымболяў вызначаецца зусім інакш. І як бы там не было, але лёс яго будзе вельмі кароткім па розных прычынах. Якой бы прыгожай не была белая лілея з залатымі зорачкамі, канкурэнцыю Полацкаму гербу яны не складуць.

На прыканцы красавіка, пасьля праведзеных некалькі месяцаў у ЗША, вярнуўся на радзіму вядомы наваполацкі сьпявак Ален. Безумоўна, як часта ў такіх выпадках бывае, час у яго зараз заняты шматлікімі сустрэчамі з сябрамі і,

*(Працяг на 2-й стар.)*

# Наваполацкія навіны

*(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)*

як заўсёды, рэалізацыяй пэўных творчых задумаў. Натуральна, многа каму хочацца сустрэцца са славутасьцю, каб распытаць у чарговы раз: "Ну як там у той Амэрыцы?". Але не толькі шматлікімі сустрэчамі запомніцца вяртаньне на Бацькаўшчыну.

Неяк у адзін травеньскі дзянёк вырашыў спадар Ален абмяняць у адным з абменных пунктаў валюты, што знаходзіцца ў "Доме гандлю", чэсна заробленую ў Амерыцы сапраўдную стодоларавую купюру. Здавалася, чаго б прасьцей? Дык вось, аддаў хлапец свае "амэрыканскія рублі" у вакенца сімпатычнай дзяўчыне і чакае нашу даражэнькую беларускую, з дазволу сказаць валюту. А дзяўчына з вакенца і кажа яму, што маўляў не падабаецца мне тавая купюра, і хуценька выклікала міліцыю. Ален нават не пасьпеў выразна патлумачыць, што грошы самыя што ні ёсьць амэрыканскія. Хутка падасьпелі міліцыянты і, не доўга думаючы, вывелі спевака на вуліцу і адвезьлі ў аддзел міліцыі. Усё гэта на вачах шматлікіх знаёмых, бо не трэба тлумачыць нікому, што Алена ведаюць многія ў горадзе, асабліва моладзь. Можна толькі здагадвацца, што падумалі некаторыя ў гэты час.

У міліцыі на яго натуральна склалі пратакол. Але акту аб канфіскацыі вышэйзгаданай купюру ніхто чамусьці не аформіў. Праз два дні спадару Алену патэлефанавалі зь міліцыі і сказалі, што можна забраць яго грошы, бо, як "высьветлілася", яны аказаліся сапрыўднымі. Ну і, як у нас звычайна бывае, ніхто ў чалавека не папрасіў прабачэньне за нанесены дыскамфорт і згублены час. Так вось родная старонка сустракае сваіх грамадзянаў. Відаць каб не забыліся ў якой дзяржаве яны жывуць.

У суботу 13 траўня, напярэдадні так званага Дня Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сьцяга, ў Наваполацку на пляцы Будаўнікоў адбыўся адпаведны бутафорны мітынг. Так, ні больш, ні менш, а як раз бутафорны. Прычым, калі па ўсяе краіне гэтыя мерапрыемствы праходзілі менавіта 14 траўня, то наваполацкія ўлады вырашылі чамусьці правясьці яго на дзень раней. Відаць, праўда, такім чынам яны спрабавалі сабраць хоць нейкім спосабам вучняў школаў ды студэнтаў іншых навучальных установаў. Прычым натуральна, што ўсё гэта замест заняткаў, прадугледжаных праграмай. Кожнай школе была даведзена квота мінімальнай прысутнасьці вучняў. А ва ўніверсытэце самі дэканы хадзілі па групах і казалі аб неабходнасьці прысутнічаць на мітынгу. Праўда варта адзначыць, што не ўсе кіраўнікі факультэтаў прымушалі сваіх студэнтаў ісьці ў час заняткаў на плошчу Будаўнікоў. Некаторыя дэканы не сталі ўвязвацца ў падобную ганебную працэдуру гвалтоўнай адпраўкі на "сьвята". Але былі і такія, што шчыравалі з асаблівай натхненасьцю. Адным з такіх, па словах студэнтаў тэхналагічнага факультэту, быў менавіта іх дэкан.

Але з усіх гэтых намаганьняў атрымаўся звычайны прапагандысцкі "пшык". На плошчы сабраліся зьнятыя з занятак школьнікі і нешматлікая студэнцкая моладзь. Прычым Полацкі Дзяржаўны ўніверсытэт быў прадстаўлены выключна калонай БПСМ.

Прынамсі кіраўнікоў наваполацкай вертыкалі на мітынгу па нейкай прычыне не было. Ці яны праявілі "политическую близорукость", ці былі занятыя больш важнымі дзяржаўнымі справамі, а можа проста палічылі, што падобная сумніўная акцыя не варта іх увагі.

Неабходна дадаць, што акрамя навучэнцаў ды студэнтаў на плошчы ніхто больш не сабраўся. Журналістаў розных СМІ браць у разьлік не выпадае, бо яны проста адпрацоўвалі свой хлеб. Характэрнай рысай было і тое, што калі студэнты ПДУ проста праігнаравалі загады і пагрозы, выказаўшы такім чынам сваю грамадзянскую пазіцыю, то школьнікі сярэдніх школаў, будучы меншымі па ўзросту, не маглі не падпарадкавацца сваім настаўнікам. Але ўсёроўна група школьнікаў здолела паказаць сябе на плошчы. Нечакана ў час выступленьня аднаго з прамоўцаў нехта са шкаляроў дастаў загадзя намаляваны на вялікім аркушы паперы бел-чырвона-белы сьцяг і пачалі гучна скандаваць вядомае і роднае "Жыве Беларусь!"

Варта адзначыць, што пры правядзеньні акцыі не быў прыпынены рух па галоўнай вуліцы гораду, што праходзіць праз пляц, дзе адбывалася шоў. А раней улады спасылаліся на тое, што мітынгі можна праводзіць толькі тады, калі перапынены рух. Менавіта гэтак матывавалася адмова ў правядзеньні акцыяў апазыцыйных партыяў і рухаў на пляцы Будаўнікоў. Ці ўлады забыліся на свае тлумачэньні, ці на іхных мерапрыемствах жыцьцю ўдзельнікаў аўтатранспарт не пагражае? Дарэчы і праводзілася мерапрыемства на адлегласьці меншай, чым вызначана адпаведным юрыдычным актам, ад галоўнага ўладнага будынка. Хацелася б даведацца, на якой падставе і кім быў выдадзены дазвол на такое правядзеньне? Між іншым былі і іншыя парушэньні. Яны былі заўважаны і пісьмова выкладзеныя ў пракуратуру горада прадстаўнікамі праваабарончага цэнтру "Вясна".

## З Гарадка

Падведзены вынікі абласнога конкурса ТБМ "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай...", прысвечанага творчасці Ф. Багушэвіча. Сярод больш ста прац прадстаўленых на конкурс, у намінацыі публіцыстычных твораў першае месца заняла Ірына Космыкава – вучаніца 9 класа СШ№ 2 г.п. Лёзна а сярод мастацка-графічных прац трэці дыплом атрымалі ілюстрацыі Ірыны Вінаградавай, вучаніцы 10 кл. СШ №2 г. Гарадка.

Працягваецца праца па распаўсюджванню незалежнай інфармацыі ў раёне. На мінулым тыдні лісты з нумарамі "Свабоднага слова", "Народнага прадпрымальніка", "Працоўнай Грамады", "Гасцінца" атрымалі яшчэ ў пяці вёсках раёна: Даўгаполье, Вайханы, Мехавое, Віраўля, Рудня, Газьба.

## Рашэнне

**Рабочай групы Асамблеі няўрадавых грамадскіх арганізацый Віцебскай вобласці**

*07.05.2000г.*

"Аб Усебеларускім з'ездзе"

Рабочая група вырашыла:

1. Падтрымаць ініцыятыву правядзення Усебеларускага з'езда.

2. Прапанаваць рэспубліканскаму аргкамітэту правесці з'езд не пазней ліпеня 2000, прымеркаваўшы яго да 10 гадавіны прыняцця "Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі".

3. Рэкамендаваць няўрадавым арганізацыям прыняць актыўны ўдзел у арганізацыйных мерапрыемствах па вызначэнню дэлегатаў з'езда.

4. Звярнуцца да рэдакцый незалежных газет "Народная воля", "Витебский курьер", "Белорусская деловая газета" і іншым больш разнастайна асвятляць ход падрыхтоўкі з'езда на старонках сваіх выданняў.

## Ад ЦМІ "Контур"

6 траўня ў Віцебску Цэнтр моладзевых ініцыятываў "Контур" супольна зь Віцебскай суполкай Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў правёў сустрэчу з рэдакцыяй часопіса ARHE. Напярэдадні імпрэза шырока рэкламавалася ў горадзе: разьвешваліся афішы, былі дадзеныя аб'явы ў мясцовай прэсе і на тэлебачаньні. На сустрэчу ў віцебскі клюб "Сава" сабралася каля 100 чалавек, у асноўным моладзь. Гучала шмат пытаньняў, выказвалася шчырая падзяка рэдакцыі за распачатую справу. Пасьля сустрэчы, што трывала больш за дзьве з паловай гадзіны, прайшоў выступ менскага рок-гурта "Цмокі". Па словах галоўнага рэдактара часопіса ARHE А. Дынько прэзентацыю часопіса ў Віцебску можна лічыць адной з самых пасьпяховых у Беларусі.

**7-8 траўня ў Віебску прайшоў семінар Цэнтра Моладзевых Ініцыятываў "Контур" "Інфармацыйныя рэсурсы ў журналістыцы". На семінар былі запрошаныя прадстаўнікі больш чым дзесяці моладзевых выданьняў г. Віцебска і Віцебскае вобласьці. Асноўнай тэматыкай трэнінгу было вывучэньне шляхоў пошуку інфармацыі ў сучасных умовах, сур'ёзная ўвага надавалася практычнаму вывучэньню рэсурсаў Інтэрнэта. Вялі семінар Тацьцяна Усава (IREX pro Media) і Васіль Брус (газэта "Витебские деловые новости").**

7-га траўня ў Віцебску быў арганізаваны агульнагарадзкі прагляд відэастужкі "Необычный концерт". На ім прысутнічалі сябры моладзевых няўрадавых арганізацыяў гораду, актыўная моладзь, студэнты, школьнікі. Па заканчэньню імпрэзы Цэнтрам Моладзевых Ініцыятываў "Контур" была арганізавана сустрэча з рэгіянальным каардынатарам Маладога Фронту Аленай Валынец. Алена распавяла пра гісторыю і сучасны стан Маладога Фронту, адказала на пытаньні прысутных.

## Шаркоўшчына

Экзамены на школьным поле.

Педагогі старэйшай ў Шаркаўшчынскім раёне Лужкоўскай СШ былі рады, калі з 38 цяперашніх выпускнікоў 9-х класаў вырашылі застацца вучыцца ў школе. Пасля экзаменаў у іх і іншых старшакласнікаў, дарэчы, прыме залік на веды і працалюбства асабісты вучэбна-вопытны участак. За працу на ім у леташнім годзе дзеці атрымалі 255 млн.рублёў заработнай платы, забяспечылі прадуктпамі сталоўку, дзе харчуюцца 332 школьнікі, а 18-абсалютна бясплатна.Частку зярна і гародніны удалося прадаць на старану, атрымаць амаль млрд. рублёў прыбыткка. Уклон на працоўнае выхаванне у сваю чаргу памог юнакам хутчэй асазнаць сябе. Апрача таго, што за апошнія 6 год у школе не было сур'ёзных правапарушэнняў, дзеці стараюцца і на ўроках. З 35 навучэнцаў выпуска 1999 года двое ўзнагароджаныя залатымі медалямі, яшчэ 8 працягнулі навучанне ў вузах, а 12 – у тэхнікумах.

## Рэкамендацыі

### Рабочай групы Асамблеі няўрадавых грамадскіх арганізацый Віцебскай вобласці

07.05.2000г.

1. Пастаянна скіроўваць увагу грамадзян на інфармацыю беларускай службы радыё «Свабода», радыё «Рацыя», беларускай рэдакцыі польскага радыё.

2. Усімі магчымымі сродкамі пашыраць чытацкую аудыторыю газет «Народная Воля», «Свободные Новости», «Наша слова», «Белорусская деловая газета», «Наша Ніва», «Наша свабода», «Рабочий», «Беларуская маладзёжная» і іншых недзяржаўных газет і часопісаў.

3. У мэтах забяспячэння грамадзян вобласці аб'ектыўнай інфармацыяй актыўна выкарыстоўваць старонкі газет «Віцебскі кур'ер», «Химик», «Вольнае Глыбокае», «Рабочий» і іншых мясцовых выданняў. Прадоўжыць працу па стварэнню сеткі грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку ва ўсіх гарадах і раёнах. Лічыць магчымым вырашыць задачу падбору грамадскіх распаўсюджвальнікаў на працягу 2000 года ва ўсіх населеных пунктах колькасцю жыхароў 100 чалавек і больш.

Рабочая група ўхваляе актыўнасць грамадскіх аб'яднанняў, якія выдаюць свае газеты, бюлетэні, дайджэсты, і звяртае ўвагу на неабходнасць больш аператыўнага інфармавання насельніцтва па вострых пытаннях палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця Беларусі.

Лічыць неабходным правядзенне семінараў рэдактараў і выдаўцоў мясцовых газет, бюлетэняў, дайджэстаў з папярэднім прафесійным аналізам іх зместу. На кожным паседжанні рабочай групы абласной асамблеі грамадскіх арганізацый рабіць агляд мясцовага друку.

## Учимся самоуправлению

**Небольшой городок Штенберг в южной Чехии принимал 12 мая делегацию городских и сельских Советов Беларуси. По приглашению Союза чешских городов, партнера «Фонда им. Л. Сапеги», и под эгидой ОБСЕ десять «старост» (так на чешский манер называются руководители местных Советов) изучали систему местного самоуправления Чехии. Надеемся, что эти знания в скором времени пригодятся нашим руководителям местной представительной власти. По крайней мере в этом заверил чехов один из участников делегации, заместитель председателя Правления ОО «Фонд им. Л. Сапеги» Х. Желяпов.**



**Давние контакты между неправительственными организациями Польши и Беларуси усиливаются. Нам есть, чему поучиться у поляков, но уже есть и что показать. Гости из Гданьска, Варшавы, Белостока знакомятся с работой Верхнедвинского информационно-ресурсного центра и произведениями кондитерского искусства верхнедвинщины.**



## З Паставаў

Пабачыў свет чацвёрты нумар "Краязнаўца Паазер'я" – дадатка да газэты NGOs Заходняй Віцебшчыны "Крэсы", якая выдаецца ў Паставах і карыстаецца вялікай папулярнасцю. Дадатак змяшчае краязнаўчыя матэрыялы, якія датычацца мінулага гэтага рэгіёна (Браслаўскі, Глыбоцкі, Мёрскі, Пастаўскі і Шаркаўшчынскі раён). Ужо зараз гэта выданне мае аўтарытэт, паколькі наклад разыходзіцца за два дні, вельмі шмат просьбаў дасылаць дадатак у іншыя рэгіёны Беларусі , а таксама ў Літву, Латвію, Польшчу. Матэрыялаў для друку назапашана шмат, пачалі дасылаць свае артыкулы краязнаўцы з Менска, Гародні, Вільні і Польшчы. Ёсць задума выдаць некалькі невялікіх кніг па краязнаўству з сэрыі "Бібліятэчка "Краязнаўцы Паазер'я". Рэдактар выдання Міхал Гіль.

З 22 – 25 чэрвеня ў Паставах традыцыйна пройдзе V Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік", які садзейнічае развіццю і папулярызацыі традыцый народна-інструментальнай творчасці і пашырэнню і ўмацаванню сувязей паміж народамі . Да ўдзелу ў фестывалі запрошаны выканаўцы з Венгрыі, Літвы, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны, Чэхіі і Славакіі. Аргкамітэт, які ўзначаліў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь В.К.Гедройц, распачаў шырокую падрыхтоўчую работу па правядзенню фестывалю.

## З Міёр

У найноўшай айчыннай гісторыі, з'явіўся першы цікавы юбілей. У Мёрскім раёне на чале са старшынёй райсавета дэпутатаў Ч.Кашкура створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы святкавання 1000- годдзя тутэйшай вёскі Лявонпаль. Ініцыятыўную групу спачатку стварыў нястомны зямляк і вядомы паэт Сяргей Панізнік. У сваім родным гняздзе ён збіраецца адкрыць музей этнаграфіі і вясковай культуры. У архівах знайшоў дакументальныя сведчанні аб першым упамінанні старажытнага мястэчка. Святкаванне абяцае быць грандыёзным для гэтых мест. Апрача добраўпарадкавання і тэатралізаванага відовішча ў Лявонпалі установяць памятны знак. Сваю падтрымку юбілею вёсцы-даўгажыхару акажуць мясцовыя ўлады і гаспадаркі, а таксама яўрэйская абшчына і аддзяленне Саюза палякаў.

## З Глыбокага

Пакуль апазіцыйныя палітыкі толькі думаюць прымаць, ці не прымаць удзела ў маючых адбыцца восенню выбарах у Палату, іх апаненты дарма часу не губляюць. Прыхільнікі ўлады даўна вызначыліся і "раскручваюцца" па поўнай праграме. У прыватнасці, намеснік старшыні пастаяннай камісіі па пытаннях эканомікі Палаты прадстаўнікоў Васіль Хрол яшчэ з пачатку года з'яўляўся ў Докшыцкім, Шаркаўшчынскім і Глыбоцкім раёнах, азнаёміў са сваёй персонай чытачоў мясцовых "раёнак". На Глыбоччыне зараз сталічны дэпутати стаў ледзь не "сваім". Павіншаваў жыхароў раёна з Ражством Хрыстовым і Вялікаднём, быў заўважаны на шэрагу адказных нарад, выступіў на мітынгу па выпадку святкавання 9 Мая. У кропку трапіў "палатачнік", калі пры вялікім натоўпе на футбольным матчы спрэзэнтаваў мясцовай камандзе "Азярцы" камплеты новай спартовай формы. А што будзе, калі пачнецца выбарчая гонка?

Працяглая засуха ізноў наводзіць смутак на дачнікаў і вяскоўцаў і абяцае паўтарэнне мінулагодніх бед. Толькі на дзялянках лепшага ў краіне Глыбоцкага вопытнага лясгаса 29 разоў адбываліся пажары. Каб пазбегнуць паўтора падобных здарэнняў, улады Глыбоцкага і астатніх суседніх раёнаў прынялі распараджэнне аб часовай забароне наведванне лясоў і тарфянікаў. На лясных дарогах спешна ставяць шлакбаумы і забараняльныя надпісы, караць будуць несумленных аўтамабілістаў. Мера ў данным выпадку апраўданая, паколькі на тэрыторыі дзярдлесфонда Віцебшчыны год назад змагаліся з 602 лляснымі пажарамі, ахапіўшымі агнём 3129 гектараў. Дарэчы, калі пойдуць дажджы, гэта абмежаванне будзе знята.

***Нагадваем, што працягваецца прыём заявак на ўдзел у конкурсе малых грантаў па падтрымцы адукацыйных і грамадскіх ініцыятываў у Беларусі.***

***Заяўкі прымаюцца да 6 жніўня 2000 года ў Віцебскім аддзяленні «Фонду імя Л. Сапегі».***

Рэдакцыйная калегія: Б. Алінін, Х.С. Жэляпаў
Камп`ютэрны дызайн і вёрстка: Б. Алінін
Камп`ютэрны набор: Б. Алінін
Адрас рэдакцыі: 210015 Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12-17, тэл/факс: (0212) 22-49-25
Распаўсюджваецца бясплатна
Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
Наклад 160 паасобнікаў
Для унутранага карыстання